№ 42 (3885)

3 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*



## *У мінулую суботу, 31 мая, Беларусь развіталася са сваім найвыдатным паэтам Генадзем БУРАЎКІНЫМ.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, цудоўны творца і грамадскі дзеяч пайшоў з жыцця 30 мая 2014 года. Яму было 77 гадоў…*

## Вехі жыцця

Генадзь Бураўкін нарадзіўся 28 жніўня 1936 года ў вёсцы Шуляціна Расонскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. У 1959 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», на Беларускім радыё, у газеце «Літаратура і мастацтва». З 1968 года — карэспандэнтам «Правды» па БССР, з 1972 года — галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», у 1978—1990 гг. — старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. З'яўляўся пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН (1990—1994). З 18 сакавіка 1994 года быў намеснікам міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь.

Аўтар дзясяткаў паэтычных кніг, пісаў таксама для дзяцей. Пакінуў найбагацейшую песенную спадчыну: на вершы Генадзя Мікалаевіча выконваецца шмат папулярных кампазіцый («Белы снег», «Зачарованая», «Матылі», «Малітва» і многія іншыя).

На «Калыханцы» спадара Генадзя выхавалася не адно пакаленне беларусаў.

Выступаў у друку з нарысамі, публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі. Аўтар сцэнарыяў некалькіх дакументальных фільмаў, двухсерыйнага мастацкага фільма «Полымя» (1974, сумесна з Уладзімірам Халіпам і Фёдарам Коневым).

Перакладаў на беларускую мову вершы рускіх, украінскіх, малдаўскіх, балгарскіх паэтаў.

Укладальнік кнігі «Наш Быкаў» — першай кнігі ўспамінаў пра Васіля Быкава.

Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 10-га і 11-га скліканняў (1980—1990), быў адным з ініцыятараў прыняцця Закона аб мовах. Быў старшынёй ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны". У 1995—2001 гадах працаваў у часопісе «Вожык».

Сябар Беларускага ПЭН-цэнтра, сустаршыня Усебеларускага з'езда за Незалежнасць (2000), сябар Рады беларускай інтэлігенцыі.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980).

*Генадзь БУРАЎКІН*

### Малітва

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут...
Божа,
Не дабаў майму народу
Пошасці,
Няпраўды
І пакут.
У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба ў нечым мелі мы віну?..
Божа,
Адвядзі ад Беларусі
Здраду,
Вераломства
І вайну.
Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё вакол ідзе на злом,
Божа,
Захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем,
І цяплом.

### ...А калі не спяваць аб Радзіме

Я не ганю землі чужыя, —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе б за морам ні жыў я,
Беларусь мая снілася мне.

Так карцела — сляза закіпала, —
Каб да сэрца хаця б здалёк
Прыплывалі жалейка Купалы,
Багдановічаў васілёк...

Гэта ўсё, безумоўна, не нова.
А ці трэба, каб новым было
Поле бацькава, матчына мова
І над хатай буслова жытло?

Хіба душы свае не лечым
Ад бяздомных бядот і згрызот
Самым простым і самым вечным,
Што пранёс праз вякі народ?

І якія б шляхі ні схадзіў я,
Кліча полацкая сенажаць...
А калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

## *Некалькі год таму ён сказаў, а нібы сёння…*

*Генадзь БУРАЎКІН*

# Веру!

**— Я веру ў няспыннасць жыцця, у тое, што ніякія фюрэры і "бацькі народаў" пры ўсёй іхняй харызматычнасці, хітрасці і подласці не змогуць павярнуць гісторыю назад. Пакалечыць, затрымаць яе развіццё — могуць; абдурыць і падначаліць сабе даверлівых людзей — могуць; але вярнуць чалавецтва ў каменны век, адвучыць яго ад дасягненняў прагрэсу, выдраць з мільёнаў душ зялёныя парасткі справядлівасці і дабрыні не ўдасца і ім, бязлітасным і помслівым, нахабным і самаўпэўненым.**

**Вядома ж, хочацца, каб светлы заўтрашні дзень, пара праўды і спагаднасці надышлі ўжо пры нас і ў нашым родным кутку, але так, на жаль, бывае не заўсёды. Галоўнае, каб такое абавязкова настала (няхай і не пры нас, а пры нашых дзецях і ўнуках), але каб непазбежна адбылося, сцвердзілася, запанавала па Божай і людской волі.**

**Я веру, што наша Бацькаўшчына ўжо ў гэтым стагоддзі стане сапраўды вольнай і шчаслівай, што палітыкі-авантурысты так і не далучаць яе ні да блізкіх, ні да далёкіх імперый, што неўзабаве мы не будзем разгублена і спалохана азірацца ні на хамавітых братоў-суседзяў, ні на самазадаволеных заморскіх дарадцаў-дабрадзеяў, нарэшце пераканаемся і ў майстэрскасці нашых рук, і ў яснасці нашага розуму, і ў моцы нашай нацыянальнай еднасці.**

**І я, далібог, не буду крыўдаваць на нашчадкаў, калі некаторыя нашы сённяшнія надзеі і турботы пададуцца ім наіўнымі і нават смешнымі. Хай сабе! Хай толькі ў іх высокіх кабінетах стольнага Мінска сядзяць не малапісьменныя местачковыя выскачкі, а дасведчаныя выпускнікі лепшых універсітэтаў свету з веданнем некалькіх замежных моў, элегантныя і добразычлівыя!**

**Хай у іх з экранаў тэлевізараў гучаць не прымітыўныя ідэалагічныя даносы і пошлыя бяздарныя анекдоты, а глыбокія аналітычныя развагі і мілагучныя родныя песні! Хай матчынай мове будзе ўтульна і хораша і ў зале пасяджэнняў парламента, і ў навуковых лабараторыях, і ў дзіцячых садках, і на эстрадных падмостках, і ў міжнародных цягніках!**

**Хай сівагаловыя ветэраны, самаахвярна аддаўшы Радзіме і ўсе свае гады, і ўсе свае сілы, не баяцца больш, што аднойчы бессаромныя валадары-дэмагогі забяруць у іх сумленна заробленыя льготы і паздзіраюць з вуліц шыльды з імёнамі іхніх легендарных герояў-пабрацімаў!..**

**Я шчыра веру, што гэта магчыма. І не ў такой ужо далёкай перспектыве. Толькі трэба навучыцца ўсім жорстка патрабаваць і з саміх сябе, і са сваіх лідараў штодзённага служэння высокім ідэалам праўды і справядлівасці, не дапускаць двайной маралі (мне — можна, а іншым — ні ў якім разе), быць гатовымі трываць нястачы дзеля агульных інтарэсаў, не паўтараць трагічных памылак і працаваць, працаваць, працаваць, перамагаючы ў сабе страх перад тупой сілай ці то ўлады, ці то лёсу, і радзей паўтараць сакральнае беларускае: "Толькі б не было вайны".**

**Вайна павінна быць, бяскроўная і бескампрамісная — у душах, у дачыненнях са злом (хіба яно знікла, хіба яно і цяпер не лаўчыцца ўлезці і ў нашы хаты, і ў нашы думкі, і нават у казані святароў?), у адстойванні сваёй годнасці і права на роўнасць паміж усімі паселенымі Богам на зямлі народамі…**

**А яшчэ я веру, што ў нас будзе лаўрэат Нобелеўскай прэміі па паэзіі. І вельмі хачу, каб ім стаў чараўнік беларускага слова, бліскучы і невычэрпны Рыгор Барадулін. Ён заслужыў такой высокай адзнакі, як, бясспрэчна, заслугоўваў яе і незабыўны Васіль Быкаў. Ну а калі нобелеўскім лаўрэатам стане Уладзімір Някляеў, ці Алесь Разанаў, ці Віктар Жыбуль — радасць мая будзе ніколькі не менш узнёслай і шчырай. Толькі дажыць бы да гэткага свята, хоць адным вокам зірнуць на сонечны золак роднай маёй зямелькі!**

**Я нядаўна бачыў іх зблізку — заўтрашні і ўчарашні дзень Беларусі. Было гэта на традыцыйным "Чарнобыльскім Шляху", калі па вуліцы годна і шырокаплынна мкнула шэсце ўсмешлівых, прыгожых дзяўчат і хлопцаў, а з-за вуголляў за імі па-воўчаму цкавалі натрэніраваныя амбалы ў чорнай уніформе. Маніфестанты не хавалі сваіх светлых маладых твараў, а тыя, чорнапрывідныя, наглуха засланялі іх куленепрабівальнымі шлемамі. І заўтрашні дзень Бацькаўшчыны мне бачыўся, вядома ж, яснавокім і светлым, а чорныя тругаыны з дубінкамі ў руках наплывалі жахлівым сном з прызабытага ўжо, сямідзесяцігадовай даўнасці, мінулага.**

**І я веру, што будучыня наша — вось яна, побач, не чорная і бязмоўная, а жаўруковая, вясновая і звонкагалосая, светлая і лагодная, як цёплая вечарына і спакойнае, чыстае неба над галавой…**

**Вось у такую Беларусь я веру. Дзеля і ў імя такой Беларусі жыву.**

***2007 год.***

***(Словы развітання на 6-й стар.)***

**ПАРАЛЕЛІ**

# За ваду і святло будзем плаціць па поўнай?

*З новай прапановай па аплаце камунальных паслуг выступіла днямі Міністэрства фінансаў Беларусі.*

У майскім нумары часопіса «Фінансы, улік, аўдыт» з'явіўся артыкул спецыялістаў ведамства, дзе прапаноўваецца ўсталяваць на некаторыя камунальныя паслугі новыя тарыфы, якія забяспечаць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных выдаткаў. Так, з 2015 года прапаноўваецца перакласці на плечы насельніцтва 100%-ную аплату паслуг на вываз смецця і карыстанне ліфтам, з 2016-га — на ваду і каналізацыю. Журналісты адразу падлічылі, што калі ідэі Мінфіна рэалізуюцца, то з 1 студзеня 2015 года за вываз смецця і карыстанне ліфтамі мы будзем плаціць у 4,5—6 разоў больш, а за ваду і каналізацыю з 2016 года — у 7 разоў. Між іншым, гэта немалыя грошы. Так, сёння сям'я з трох чалавек, якая жыве ў стандартнай двухпакаёўцы і не ўкладваецца ў льготны нарматыў, плаціць за ваду (з улікам падагрэву) каля 100 тысяч у месяц. Атрымліваецца, што будзе плаціць 700 тысяч. І гэта толькі за ваду!

Але ж нашы чыноўнікі настойваюць на поўнай кампенсацыі насельніцтвам коштаў і на іншыя камунальныя паслугі. На пачатку мая намеснік прэм'ер-міністра Анатолій Калінін заявіў, што з 2015 года за электраэнергію і газ беларусы таксама будуць плаціць па поўнай. *«На мяжу 100%-най кампенсацыі выдаткаў мы выйдзем у 2015 годзе,* — заявіў Калінін. — *Гаворка ідзе пра паслугі электра- і газазабеспячэння. Усе астатнія будуць пакрываць арыенціровачна 60% выдаткаў арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі».*

Нашы чыноўнікі любяць нагадваць, што сёння мы плацім 28% ад сабекошту камунальных паслуг. Але сям'я з трох чалавек, якая месціцца ў стандартнай двухпакаёўцы, плаціць сёння за камуналку і свет каля 400 тысяч у месяц. Лёгка падлічыць, што плата за кватэру без скідак складзе паўтара мільёна. Гэта летам, а зімой і ўсе два мільёны пацягне. Для некаторых беларусаў гэта як мінімум трэць заробку, а пенсіянеру за такую камуналку дык і ўвогуле амаль што ўсю пенсію прыйдзецца аддаваць...

Вядома, што беларускія ўлады любяць ківаць у бок заходніх краін і казаць, што там ужо даўно насельніцтва поўнасцю, без усялякіх скідак, аплачвае камунальныя паслугі. І неяк выжываюць. Але ж які працэнт ад іх зарплат і пенсій складаюць камунальныя плацяжы?

**ЯК У ІХ?**

## Пенсія амаль 2 тысячы злотых, камуналка — 600

У польскім горадзе Лодзь жыве мая стрыечная цёця **Ірэна НЕРЛІНГ**. Тэлефаную ёй і распытваю, колькі яна плаціць за святло, газ, ваду і г.д.

*— У мяне кватэрка невялікая, з двума малымі пакойчыкамі,* — расказвае цёця. — *38 квадратных метраў. Але я жыву адна, мне хапае.*

*Квартплата ў Польшчы ад пары года не залежыць, лічбы ў жыроўках круглы год аднолькавыя. Так, у красавіку я заплаціла за кватэру 420 злотых. З гэтай сумы ідуць адлічэнні дворнікам, прыбіральшчыцы ў пад'ездзе і г.д. Таму ў нас заўсёды чысціня, кветкі на падаконніках, газоны пастрыжаныя... За святло і ваду мы плацім у адпаведнасці з тым, колькі спажылі. Безумоўна, я карыстаюся пральнай машынай, і камп'ютар нават ёсць. Ваду не эканомлю. У мінулым месяцы напаліла святла на 80 злотых, вады спажыла на 30. Яшчэ 20 злотых аддала за газ і 50 — за тэлефон. Агулам выйшла 600 злотых.*

*Вось і лічы — многа гэта ці мала? Пенсія ў мяне без 20 злотых 2 тысячы. Я ж ужо перасягнула 75-гадовы ўзрост, таму штомесяц мне даплачваюць бонус — 206 злотых. Але зніжак на камуналку няма. Нават у інвалідаў няма. Мая суседка двойчы перанесла інсульт, ёй далі І групу інваліднасці, дапамогу невялічкую атрымлівае, але льгот па аплаце камунальных паслуг не мае.*

2 тысячы злотых — гэта амаль што 660 долараў, 600 злотых — адпаведна, 200 долараў. Атрымліваецца, што з вылікам камунальных паслуг у цёці застаецца на руках 440 долараў. У нашых пенсіянераў і пенсій такіх няма. Сёння сярэдняя па Беларусі — 2 мільёны 413 тысяч. Нават калі пенсіянер са стандартнай «двушкі» 400 тысяч аддасць за камуналку (28% ад сабекошту), то на жыццё ў яго застанецца усяго толькі 200 долараў. Але ж прадукты, тавары і адзенне ў Польшчы значна танней, чым у нас, беларусы пры першай магчымасці едуць «на закупы» ў Беласток. Лекі ў Польшчы па многіх пазіцыях таннейшыя. Як жа будуць выжываць нашы пенсіянеры, калі нават на некаторыя паслугі ЖКХ устаноўяць 100%-ную аплату?!

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

**ПАЛІТКУХНЯ**

# Восьмы тэрмін Анатоля Лябедзькі

Напярэдадні чарговага з'езда Аб'яднанай грамадзянскай партыі існавала невялічкая інтрыга. На пасаду старшыні партыі, акрамя Анатоля Лябедзькі, называліся прозвішчы Аляксандра Дабравольскага, Генадзя Ананьева, Васіля Палякова, Сяргея Балыкіна... Аднак усе яны ўзялі самаадвод. Сяргей Балыкін так растлумачыў сваё рашэнне:

— Сама па сабе працэдура гэтых выбараў крыху цынічная. Нават Лукашэнка не дазваляе сабе балатавацца адзінаасобна. Гэта па-першае. Па-другое, я не ўпэўнены, што ўсе сябры партыі атрымалі паведамленні аб правядзенні сходаў раённых і абласных арганізацый, як таго патрабуе партыйны статут. На з'ездзе сабраны дэлегаты, лаяльныя да кіраўніцтва. І я не бачу сэнсу балатавацца на пасаду старшыні партыі, выскачыўшы як чорт з табакеркі. Навошта быць дэкаратыўным спарынг-партнёрам для Лябедзькі? Няхай ён гуляе ў сваёй пясочніцы сам.

У выніку ў бюлетэнях сінезялёнага колеру з партыйнай сімволікай было аддрукавана толькі адно прозвішча. Анатоль Лябедзька перамог, набраўшы 80% галасоў. Гэта будзе яго восьмы тэрмін на пасадзе старшыні партыі.

Адзначым, што працу кіраўніцтва партыі за апошнія два гады з'езд прызнаў задавальняючай. Пры тым што за гэты перыяд па ўсёй краіне не зарэгістравана ніводнай пярвічнай арганізацыі АГП, а кампанія па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў закончылася для АГП нічым — ніводны з партыйных «спікераў» так і не стаў дэпутатам на мясцовым узроўні...

### Удзел ці байкот?

Адназначнага меркавання на гэты конт у дэлегатаў з'езда АГП не было. Вось выказванні некаторых з іх падчас інтэрв'ю.

**Аляксандр ГУШАН (Маладзечна):**

*— Хопіць дапамагаць уладзе ў легітымізацыі выбараў. Чаго мы дабіліся за гэтыя гады? Што, у краіне адменена датэрміновае галасаванне? Не. Што, выбарчыя камісіі перапоўнены прадстаўнікамі дэмакратычных партый? Таксама не. Дык навошта гуляць у такую дэмакратыю? Каб зноў трапіць пад міліцэйскія дубінкі і ў турмы? Нічога ж не зменіцца і ў наступным годзе. Дык навошта марнаваць сілы і час. Таму я за байкот.*

**Віктар МАЛОЧКА (Салігорск):**

*— Змена ўлады ў Беларусі магчыма толькі праз Плошчу. А ўдзельнічаць у выбарах партыя павінна хоць бы таму, каб пра яе не забывалі ў народзе.*

**Сяргей БАЛЫКІН:**

*— Трэба было б удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, але ў нас няма з кім. Вы памятаеце, у нас быў свой кандыдат на выбарах 2010 года — Яраслаў Раманчук. Гэта проста ганьба! На маю думку, АГП павінна змагацца за ўладу, але толькі на мясцовым узроўні, удзельнічаючы ў выбарах у мясцовыя Саветы і беручы ўдзел у кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Гэта фарміруе «каманды» ў самым нізе, адкуль і трэба адбудоўваць сістэму. Зараз АГП — гэта «кухонная партыя», клуб па інтарэсах. Мы ж нават не змаглі закрыць усе выбарчыя акругі на мясцовых выбарах. Я ўжо не кажу пра «якасць» гэтых спікераў. Вылучылі людзей без адукацыі, без досведу... Некаторыя двух слоў звязаць не маглі..*

**Уладзімір КАЦОРА (Гомель):**

*— Усім зразумела, што апазіцыі трэба выходзіць на «адзінага кандыдата». Гэта паказаў досвед выбарчай кампаніі 2010 года, калі дэмакратычныя сілы выставілі з дзясятак кандыдатаў. Таму я хачу дакладна ведаць, што партыя вылучае свайго кандыдата ў прэзідэнты, які будзе ўдзельнічаць у Кангрэсе дэмакратычных сіл, дзе і абяруць адзінага. У выпадку паразы нашага стаўленіка партыйны актыў будзе працаваць на іншага чалавека…*

Хто і на каго будзе працаваць — пакажа час, а вось з асобай уласнага кандыдата АГП вызначылася на з'ездзе — змагацца за званне «адзінага» даверылі **Анатолю Лябедзьку.**

У размове з «Народнай Воляй» Лябедзька выказаў простую ісціну: перамагчы Лукашэнку яму дапаможа народ.

— Аб'яднаная грамадзянская партыя — не тая структура, якая стварае фон. Я ж ведаю, які кошт барацьбы за ўладу ў Беларусі. Я прайшоў і праз «амерыканку» ў КДБ, і праз іншыя рэпрэсіі. Пасля гэтага палітык альбо сыходзіць, альбо больш загартоўваецца. Асабіста ў мяне ёсць матывацыя для ўдзелу. Наша асноўная памылка ў тым, што людзям не хапае веры. Беларусам патрэбны агульнанацыянальны тэрапеўт, большасць людзей хочуць перамен, матывацыя ў кожнага свая, але жаданне агульнае. Улады могуць рабіць маніпуляцыі з лічбамі, але калі рэальная большасць насельніцтва будзе ведаць, як прагаласавалі насамрэч, то перамены надыдуць…

Шчыра кажучы, нешта падобнае ў той ці іншай інтэрпрэтацыі можна было пачуць і ў 2006-м, і ў 2010 годзе. Кандыдаты змагаліся за «рэальную электаральную большасць». Вынік таго змагання, а дакладней ягоная адсутнасць, вядомы ўсім. Як будзе праз год?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ПАД ГРАДУСАМ**

# Лета прыйшло

У канцы тыдня зноў пацяплее да +32. А сярэдняя тэмпература паветра ў першую дэкаду чэрвеня прагназуецца на 2—4 градусы вышэй за норму (норма +15...+17°С). Аднак без дажджоў і навальніц не абыдзецца.

Як расказаў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў,** у сераду 4 чэрвеня на большай частцы Беларусі пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ноччу +10...+16; днём +21...+28, у заходніх раёнах — +18...+20.

У чацвер 5 чэрвеня на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ноччу +10...+16, днём +21...+28.

Пачынаючы з пятніцы з ростам атмасфернага ціску дажджоў стане менш, і тэмпература паветра яшчэ крыху павысіцца. На выхадных чакаюцца месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ноччу +12..+18, днём +24...+29, па ўсходзе да +30...+32.

**АФІЦЫЙНА**

# Кабала?

*На сайце Міністэрства эканамічнага развіцця Расійскай Федэрацыі з'явіўся тэкст Дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе, які на мінулым тыдні ў Астане падпісалі кіраўнікі Расіі, Беларусі і Казахстана.*

З тэкста дакумента вынікае, што з Еўразійскага эканамічнага саюза Беларусь могуць... ніколі не выпусціць, нават калі зменіцца ўлада і наша краіна перагледзіць свае знешнепалітычныя і знешнеэканамічныя прыярытэты. Згодна з артыкулам 13 дакумента, "рашэнні Вышэйшага савета, звязаныя са спыненнем членства дзяржавы-члена ў Саюзе", прымаюцца па прынцыпе "кансэнсус мінус голас дзяржавы, што паведаміла пра свой намер спыніць членства ў Саюзе". Гэта значыць, што калі Расія і Казахстан нас не адпусцяць, то з ЕўрАзЭС мы выйсці не зможам.

Наколькі гэта адпавядае беларускай Канстытуцыі, напэўна, павінен вырашыць Канстытуцыйны суд. Тым больш што ў галоўным дакуменце нашай краіны зафіксавана, што *"Рэспубліка Беларусь самастойна ажыццяўляе сваю ўнутраную і знешнюю палітыку".*

КАМАНДЗІРОЎКА

# «Немагчыма вазіць паветра ў мяхах...»

*Кіраўнікі нават стратных прадпрыемстваў на Салігоршчыне атрымліваюць нечуваныя зарплаты, у той час як іх падначаленыя вымушаны ледзь зводзіць канцы з канцамі.*

Пра высокія даходы дырэктарскага корпусу і кіраўнікоў бюджэтных устаноў Салігорска і Старобіна стала вядома падчас мінулай кампаніі па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў. Тут, як кажуць, хочаш не хочаш, а прыйшлося спадарам начальнікам (а пераважна яны цэлілі ў дэпутацкія крэслы) «засвяціць» перад выбаршчыкамі ўзровень сваіх даходаў.

У лютым бягучага года «Народная Воля» знаёміла чытачоў з гэтымі лічбамі, якія, безумоўна, уражвалі, бо месячны заробак некаторых начальнікаў-багацеяў, як высветлілася, складаў не адну тысячу долараў... І вось зараз карэспандэнт «Народнай Волі» адправіўся на тыя самыя прадпрыемствы, каб даведацца: а колькі ж там атрымліваюць простыя супрацоўнікі? І ці задаволены яны ўзроўнем сваіх заробкаў?



```
~___________________________________сч.96008440 в 63300:
                                 апрель  2014г. ТАБ-  2896:
: ОАО "Солигорскторг"            ЦЕХ-031  К-04  Д-01     :
: МОЛОЧКО НАТАЛЬЯ НИКОЛАЕВНА                Разряд        :
: Стр.св-во N 4021081B037PB9 продавец 5 раз
_____________________________________________________________
B/O:           : ЧАСЫ :ДНИ :  СУММА : B/У:          : СУММА :
_____________________________________________________________
                                                      900000
 2 ПОВРЕМЕННАЯ      166.0   21   1866047 800 АВАНС    159077
 7 ПРЕМ. ПОВРЕМЕН.   7.0%         118748 802 ПОДОХОДНЫЙ  21356
 35 СОВМЕЩЕНИЕ                     60920 822 ПРОФВЗНОСЫ   21356
 550 ПРАЗДНИЧНЫЕ      8.0          89930 862 ПЕНСИОННЫЙ
 798 ОСТАТОК ПР МЕС                    5                 1101789.00
 НАЧИСЛЕНО:                   2135650.00 УДЕРЖАНО:
 К ВЫПЛАТЕ:(РУБ)              1033861.00
 НА КАССУ :(РУБ)              1033860.00

                                 8521589
 Совокупный годовой доход :      2135645 Льгота на работника:  630000
 Облагаемый доход за месяц:      2135645 Льгота на детей     :  180000
 Сумма для 1% в ФСЗ       :       100000 Превыш.мат.пом.     :       0
 Сумма мат.пом. с нач.года:
```

## Дырэктар пабяднеў

Старобін — пасёлак гарадскога тыпу ў 12 кіламетрах ад Салігорска з насельніцтвам каля 8 тысяч чалавек. Гэты населены пункт вядомы ў першую чаргу тым, што тут нарадзілася бліскучая беларуская актрыса, колішняя зорка Купалаўскага тэатра Галіна Кліменцьеўна Макарава. Пра яе ведаюць і помняць многія....

А вось пра вытворчыя поспехі мясцовага горадастваральнага прадпрыемства, якім з'яўляецца Салігорскі торфабрыкетны завод, не чуваць. Хаця прадпрыемства лічыцца адным з буйнейшых у сваёй галіне не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе.

Нагадаем, што падчас выбарчай кампаніі дырэктар торфабрыкетнага завода **Віктар Анікеенка** падаў у выбарчую камісію наступныя звесткі пра сваё фінансавае становішча: гадавы даход за папярэдні год быў **313 мільёнаў 957 тысяч 835 рублёў.** Гэта значыць, што ў сярэднім на месяц прыйшлося больш за 26 мільёнаў рублёў, ці амаль 3 тысячы долараў (!!!). Аляксандр Лукашэнка яшчэ нядаўна прызнаваўся, што меней зарабляе...

Сустрэцца са спадаром Анікеенкам давялося на ганку прадпрыемства.

— Я зараз вельмі заняты, ад'язджаю у райвыканкам, — паведаміў ён.

**— Хацелася б пагаварыць з вашымі рабочымі, распытаць пра жыццё...**

— Не будзем адрываць рабочых ад працы, на ўсе неабходныя пытанні вам адкажа хто-небудзь з нашых эканамістаў, — адказаў дырэктар.

Вядучы эканаміст прадпрыемства **Альбіна Мільхавец** паведаміла наступнае:

— *Зараз вы знаходзіцеся на галаўным прадпрыемстве. Салігорскі торфабрыкетны завод мае яшчэ два філіялы — у Віцебску і ў Слуцку. Мы займаемся вытворчасцю тарфяных брыкетаў. На сённяшні дзень на прадпрыемстве (разам з філіяламі) працуе прыкладна 550 чалавек. З іх 390 — рабочыя. Не буду ўтойваць, што апошнім часам на прадпрыемстве знізіўся аб'ём выпуску прадукцыі. За 2013 год прадпрыемства выпусціла 168 тысяч тон тарфяных брыкетаў, у той час як раней аб'ёмы вытворчасці складалі 276 тысяч тон прадукцыі ў год. Скарачэнне звязана з праблемамі збыту. Раней каля 80 працэнтаў ішло на экспарт — у асноўным у Швецыю. Але з мінулага года скандынавы адмовіліся ад нашага паліва.*

Альбіна Мільхавец таксама расказала, што завод пастаўляе торфабрыкет у 30 раёнаў Беларусі, але гэтыя аб'ёмы нязначныя, бо многія прадпрыемствы аддаюць перавагу газу, а не торфу.

— *Ці вось яшчэ прыклад*, — працягвае вядучы эканаміст, — *у гэтым годзе мы заключылі дамову на пастаўку 30 тысяч тон прадукцыі Касцюковіцкаму цэментнаму заводу, але і яны нешта не вельмі хочуць браць наш торф... Чамусьці ім выгадна працаваць на вугалі....*

*Што тычыцца заробкаў на заводзе, то лічбы наступныя: за 2012 год сярэдні заробак на прадпрыемстве складаў 4 мільёны 95 тысяч рублёў, у мінулым годзе гэтая лічба была 4.925.000. Сёлета (за чатыры месяцы) сярэдні заробак склаў 5.296.000 рублёў. Калі гаварыць асобна пра рабочых, то за першы квартал бягучага года іх заробак быў 4.695.000 рублёў. Сярэдні заробак спецыялістаў прадпрыемства (напрыклад, эканамістаў) за тры месяцы бягучага года — 5 мільёнаў 650 тысяч, а ў кіраўніцтва прадпрыемства — 8 мільёнаў 302 тысячы.*

Што тычыцца заробку дырэктара Віктара Анікеенкі, то, як патлумачыла Альбіна Мільхавец, ён у мінулым годзе атрымліваў у сярэднім **23 мільёны рублёў** у месяц.

— *Але такі высокі заробак склаўся таму, што за добрую працу дырэктар атрымаў асабісты бонус памерам прыкладна 100 мільёнаў рублёў*, — паведаміла спецыяліст. — *Сёлета ягоны заробак ніжэйшы — за першы квартал бягучага года ён склаў 18,5 мільёна рублёў у месяц.*

Звярніце ўвагу на такую дэталь: у эканамічнай службе мне выклалі ўсе лічбы, як кажуць, у сярэднім. Я так і не змог даведацца, колькі рабочых маюць заробак у межах 3—3,5 мільёна рублёў. А такімі грашыма ўжо ніяк не пахвалішся. Калі дырэктар атрымлівае ў месяц 18,5 мільёна рублёў, то рабочы, мяркуецца, павінен мець хаця б трэцюю частку ад гэтай суммы.

Як ні дзіўна, але галоўны эканаміст лічыць, што ўсё нармальна: дырэктар зарабляе за адзін месяц столькі, колькі іншы рабочы — за чатыры. Пры гэтым прадпрыемства поспехаў не дэманструе, а кантракты, перспектывы, новыя рынкі і гэтак далей — гэта клопат не рабочага, а кіраўніка. Але не скажаш, што апошні надрывае пуп.

Аднак з прадпрыемства, заўважым, ніхто не бяжыць. Бегчы ў Старобіне, шчыра кажучы, проста няма куды.

## «З кожным днём усё горш і горш...»

Яшчэ адзін дырэктар-дэпутат — **Міхаіл Казушчык** — узначальвае Салігорскую аўтабазу, якая месціцца тут жа, у Старобіне. Пажадаўшы стаць абаронцам інтарэсаў людзей, ён задэклараваў свой гадавы даход у памеры **343 мільёны рублёў.** Гэта азначае, што ў сярэднім за месяц ягоны даход складаў **28,5 мільёна рублёў.**

Але тое, што і на гэтым прадпрыемстве ёсць праблемы, можна зразумець, ледзь пераступіўшы парог прахадной. Аўтабаза, як няцяжка зразумець, зарабляе перавозкай грузаў, а значыць, машыны павінны не стаяць на прыколе, а ездзіць. Асабліва падчас рабочага дня. Аднак карціна, якую давялося ўбачыць, збянтэжыла — на заасфальтаванай адкрытай пляцоўцы стаяла з паўтара дзясятка МАЗаў і КАМАЗаў...

Як удалося высветліць, аўтапарк прадпрыемства налічвае 107 машын. Ёсць тут 20- і 10-тонныя МАЗы, пескавозы, бартавыя машыны. Ніводнай машыны заходнееўрапейскай вытворчасці няма — усе беларускія альбо расійскія. Некаторыя машыны знаходзяцца на прадпрыемстве яшчэ з савецкіх часоў, але ёсць і МАЗы, якія пакінулі заводскі канвеер у гэтым стагоддзі.

Маю выснову пра тое, што, калі машыны стаяць, значыць, заказаў аўтабаза мае не так шмат, як хацелася б, у асабістай размове пацвердзіў і дырэктар прадпрыемства.

— *Сітуацыя не самая лепшая*, — адразу прызнаўся Міхаіл Казушчык. — *У параўнанні з трыма мінулымі гадамі, калі сярэдні заробак на прадпрыемстве быў каля 8 мільёнаў, зараз ганарыцца няма чым. Працуем не на поўную моц, частка транспарту прастойвае... Наш асноўны заказчык — салігорскі будтрэст №3, на сённяшні дзень аб'ёмы будаўніцтва ўпалі, адпаведна, і заказаў не так шмат, як хацелася б... Не будзеш жа вазіць паветра ў мяхах, гэта проста немагчыма. З новага года мы шукаем новага буйнога заказчыка, але гэта справа няпростая... Знайшоўся заказчык у Магілёўскай вобласці, туды адпраўлена 15 нашых машын...*

Дырэктар прызнаецца, што яшчэ адной праблемай для прадпрыемства з'яўляецца канкурэнцыя:

— *Нас выбіла з каляіны тое, што за апошнія 2—3 гады на льготных умовах у краіну было ўвезена шмат замежных машын, больш эканамічных і больш магутных... Вельмі шмат прыватных кампаній-канкурэнтаў, яны і выштурхнулі нас з рынку.*

У доказ сваіх слоў кіраўнік салігорскай аўтабазы паказаў дакументы, якія тычыліся ўдзелу прадпрыемства ў тэндары на перавозку. Заказчыкам выступаў Салігорскі завод жалезабетонных канструкцый. Удзел у тэндары бралі 15 арганізацый, адзінай дзяржаўнай якраз і была салігорская аўтабаза. Але... тэндар прайграла.

Ці адбіліся такія правалы на заробках дырэктара, сказаць не магу. Міхаіл Казушчык не захацеў агучыць канкрэтныя лічбы. Але ж сярэднямесячны мінулагодні даход кіраўніка ўражвае — 28,5 мільёна рублёў.

А агульная статыстыка па прадпрыемстве такая. Зараз на салігорскай аўтабазе працуе 175 чалавек. З іх 110 — гэта непасрэдна вадзіцелі. Сярэдні заробак за чатыры месяцы гэтага года ў іх склаў 5,5 мільёна, у рамонтных рабочых атрымліваецца каля 3 мільёнаў у месяц... Ці можна назваць справядлівай аплату працы вадзіцеляў, слесараў і кіраўніцтва аўтабазы? Мабыць, не. Есці аднолькава хочуць як дзеці начальства, так і дзеці простых рабочых.

— *З кожным днём сітуацыя ўсё горш і горш*, — гаворыць вадзіцель аўтабазы Віктар Ермаковіч (на фота). — *Працую тут з 1979 года, але такога заняпаду не помню... Гады два, тры таму ўсё было добра, гараж быў пусты, мы працавалі нават па выхадных днях... Раней былі заказы і ў Мінск, і ў Салігорск, і ў Мікашэвічы... На нашым прадпрыемстве афіцыйна скарочаны працоўны тыдзень не ўводзіўся, аднак бывае, што прыходзім сюды, але працы няма... Вось і сёння* (размова адбывалася ў пятніцу, 23 мая. — **Аўт.**) *я пастаўлю машыну на мойку, і ўсё — лічы, вольны. Плаціць у сувязі з гэтымі праблемамі сталі менш — атрымліваю зараз прыкладна пяць мільёнаў, у мінулыя гады было восем... Канешне, хочацца зарабляць болей. Але што зробіш, калі працы, па сутнасці, няма...*



Узнікае пытанне: калі кіраўнікі аўтабазы не могуць вырашыць праблемныя пытанні, то чаму ў іх такая высокая зарплата? Каму яны больш служаць — калектыву ці ўладзе? І чаму тая ж улада не сбалансуе па справядлівасці заробкі начальнікаў і рабочых? За што ўлада «падкормлівае» кіраўнікоў?

## Аптымізацыя без аптымізму

Салігорск — гэта ў першую чаргу «Беларуськалій». Прадпрыемства корміць не толькі горад, але і краіну. Заробкі тут, у параўнанні з іншымі прадпрыемствамі і арганізацыяміі Салігорска, больш унушальныя. Нездарма ў дзень зарплаты на «каліі», як называюць прадпрыемства мясцовыя жыхары, Салігорск ператвараецца ў горад-кірмаш: садавіну, гародніну, мяса і іншыя тавары прывозяць сюды з усяго наваколля. Гандляры ведаюць: прыбытак абавязкова будзе. Але як жывуць, колькі атрымліваюць і як выжываюць тыя, хто не працуе на калійным гіганце?

...Адным з першых, каго давялося сустрэць у горадзе беларускіх шахцёраў раніцай буднага дня, быў мясцовы сантэхнік **Іван Пракапчук** (на фота).



Высветлілася, што ўся камунальная гаспадарка горада падпарадкоўваецца прадпрыемству ЖКГ «Комплекс», і, як удалося даведацца ў суразмоўцы, менавіта на гэтым прадпрыемстве зусім нядаўна адбыліся вялікія скарачэнні.

Галоўнае камунальнае прадпрыемства Салігорска — стратнае, як і ўсе аналагічныя прадпрыемствы па краіне. Частка сродкаў на яго дзейнасць выдаткоўваецца з раённага бюджэту. Доўгі час у горадзе цыркулявалі чуткі аб тым, што ЖКГ «Комплекс» адыдзе пад крыло «Беларуськалія» і скарачэння людзей удасца пазбегнуць. Аднак «гігант» адмовіўся цягнуць на сабе ЖКГ, і людзей пакінулі без працы. Прычым усё было абстаўлена так, быццам рабілася гэта ў мэтах аптымізацыі дзейнасці камунальнай галіны. Было вырашана скараціць ажно 467 чалавек: 410 рабочых і 57 інжынерна-тэхнічных работнікаў. Можна падумаць, што менавіта сантэхнікі і электрыкі самыя непатрэбныя людзі у ЖКГ, ды яшчэ тыя, у каго заробкі найбольшыя...

— *Людзей скарацілі — каго на пенсію адправілі, каго проста звольнілі, і працы, зразумела, прыбавілася,* — гаворыць Іван Пракапчук. — *Раскажу на асабістым прыкладзе: я працую сантэхнікам у ЖЭС №4 восем гадоў. Раней абслугоўваў чатыры дамы па вуліцы Багамолава, атрымліваў каля 4 мільёнаў у месяц. Пасля «аптымізацыі» мне дадалі яшчэ два дамы, а заробак застаўся на тым самым узроўні, хаця, здавалася б, яго павінны былі б падняць... Ці задаволены я гэтым? Адказ вядомы. На жыццё, праўда, калі не шыкаваць, хапае. Да таго ж я не ведаю, колькі атрымлівае начальства. Так што няма з чым параўноўваць...*

Дарэчы, прыкладна столькі ж, колькі сантэхнікі, атрымліваюць у Салігорску электрыкі ЖКГ «Комплекс». У дворнікаў заробкі меншыя — 2—2,5 мільёна ў месяц.

І цяпер, ведаючы лічбы, можна параўнаць.

Намесніца дырэктара па ідэалагічнай працы той жа ЖКГ «Комплекс» **Валянціна Пратасеня,** якая стала дэпутатам райсавета, на момант паходу за дэпутацкім мандатам мела гадавы даход 105 мільёнаў рублёў, альбо 8,8 мільёна рублёў у месяц. Такая разбежка ў даходах яскрава сведчыць: для сённяшняй улады правільна закручаныя ідэалагічныя гайкі — справа значна больш важная, чым правільна закручаныя гайкі сантэхнічныя.

І апошняе, што тычыцца камунальнай «аптымізацыі» ў Салігорску. Скараціўшы людзей, прадпрыемства эканоміць для бюджэту ажно 6,2 мільярда рублёў. Такую лічбу назваў дырэктар ЖКГ «Комплекс» **Анатоль Нядвецкі.** Цяжка сказаць, куды будуць накіраваны гэтыя грошы, аднак дакладна не на рамонт пад'ездаў на той жа вуліцы Багамолава. Зайшоўшы ў адзін з такіх пад'ездаў, я ўбачыў наступную карціну: сцены падрапаны, падлога брудная, на адной са сцен месціцца недвухсэнсоўны зварот да аматараў справіць «малую патрэбу»... Значыць, прэцэдэнты здараліся... Такая вось «аптымізацыя»...

## «Хочаш — жыві за гэтую зарплату, хочаш — памірай»

Звярнулі на сябе ўвагу даходы яшчэ адной прадстаўніцы «ідэалагічнага цэха» — намесніцы генеральнага дырэктара па ідэалагічнай працы ААТ «Купалінка» **Ілоны Гражынскай.** Яна таксама абіралася ў мясцовыя дэпутаты і падчас выбарчай кампаніі ўказала суму свайго даходу ў памеры **119 мільёнаў 566 тысяч 210 рублёў, ці ў сярэднім 9,9 мільёна рублёў у месяц.**

Менавіта Ілона Гражынская і сустрэла мяне на прахадной прадпрыемства.

— *З супрацоўнікамі размаўляць вы не будзеце,* — адразу адрэзала ідэолаг. — *Не варта адрываць іх ад працы. Да таго ж у рэкламе наша прадпрыемства зараз патрэбы не мае. Калі хочаце, прыязджайце праз тыдзень-другі, якраз новы дырэктар увойдзе ў курс працы, з ёй і паразмаўляеце.*

Чакаць дырэктарскага запрашэння мне не выпадала, як і афіцыйнага дазволу на размовы з людзьмі. Таму на прахадную «Купалінкі» я вярнуўся пасля заканчэння змены і змог пагутарыць са швачкамі. Адна з іх, праўда, на ўмовах ананімнасці, распавяла:

— *Працаваць на «Купалінцы» лічыцца больш чым нармалёвым, асабліва для швачак, бо заробкі ў гарадскіх дзяржаўных атэлье меншыя, чым тут... А на «Купалінцы» амаль індывідуальны падыход да швачак, усё залежыць ад прафесійнага разраду, колькасці і якасці выкананай работы. Заробкі вагаюцца ад 3 да 7 мільёнаў... Ці задавальняе гэта людзей? Каго не задавальняе, той сыходзіць. Дарэчы, вакансіі швачак трэцяга і чацвёртага разрадаў ёсць амаль заўсёды.*

«Сытай» галіной ва ўсе часы лічыўся гандаль. Гэтую выснову можна лёгка пацвердзіць, ведаючы пра даходы дырэктара ААТ «Салігорскгандаль» **Валерыя Васілевіча,** які таксама стаў дэпутатам мясцовага раённага Савета. Ён задэклараваў больш за 203 мільёны рублёў гадавога даходу, або амаль 17 мільёнаў у месяц.

Але цяжка сказаць, як Валерый Міхайлавіч глядзеў бы ў вочы звычайнай салігорскай гандлярцы **Наталлі Малочка,** калі б яны сустрэліся на вуліцы, бо заробак жанчыны ў красавіку 2014-га склаў... 1 мільён 900 тысяч рублёў, амаль у 10 разоў менш, чым у дырэктара прадпрыемства (прычым улічвайце, што годам раней і курс долара быў іншым).

— *Я працую гандляркай у мясцовым «Дзіцячым міры»,* — расказвае Наталля. — Магазін уваходзіць у структуру «Салігорскгандлю». Маю пяты разрад (другі па класнасці. — **Аўт.**). *За красавік бягучага года, адпрацаваўшы 21 дзень, я атрымала на рукі 1 мільён 900 тысяч рублёў. Амаль палова з гэтых грошай быў аванс, астатняе — зарплата. Увогуле, заробак гандляра залежыць ад колькасці прададзенага тавару. Раней яшчэ плацілі грошы за выслугу гадоў, але зараз дадатковыя налічэнні (гэта ў нас называецца «прэмія») знялі. Апошні раз я атрымлівала прэмію ў мінулым месяцы — 7 працэнтаў ад заробку. Гэта было 100 тысяч рублёў. Ці задаволена я сваім фінансавым становішчам? Вельмі «задаволена», асабліва ўлічыўшы, што маю маленькую дачку на руках. Што гэта за заробак такі: хочаш — жыві за гэтую зарплату, хочаш — памірай?! Добра, што ў нашай сям'і ёсць яшчэ грошы мужа, то неяк спраўляемся. А калі б адна жыла?.. Гандляры ў Салігорску шукаюць лепшай долі на прыватных прадпрыемствах, у розных гіпер- і супермаркетах. Там заробкі хоць крыху, але вышэй.*

У якасці рэмаркі да аповеду Наталлі Малочка хацелася б заўважыць: ніхто не гаворыць аб тым, што заробак дырэктара ААТ «Салігорскгандаль» павінен быць такім жа, як у гандляркі магазіна, але ж розніца ў месячным даходзе амаль у 10 разоў?! Неяк зусім несправядлівым такое падаецца. Хіба не так?

## Рэцэпт: усе павінны працаваць

Бадай, адзіны з начальнікаў-дэпутатаў, хто паспрабаваў патлумачыць, адкуль у кіраўнікоў бяруцца такія ўнушальныя заробкі, стаў галоўны ўрач Цэнтральнай раённай бальніцы Салігорска **Аляксандр Лапуста,** чый гадавы заробак склаў 170 мільёнаў 75 тысяч 565 беларускіх рублёў, альбо прыкладна 14 мільёнаў у месяц.

— *Гэты даход абсалютна рэальны,* — гаворыць Аляксандр Антонавіч. — *Адкуль узялася такая сума? Па-першае, у мяне вышэйшая ўрачэбная катэгорыя. Па-другое, я — практыкуючы ўрач. Па-трэцяе, атрымліваю грошы за начныя дзяжурствы. Па-чацвёртае, я галоўны ўрач бальніцы.*

Галоўны ўрач з асцярогай паставіўся да просьбы дазволіць пагутарыць з персаналам клінікі:

— *За свой калектыў я адкажу вам сам... Кадравая сітуацыя ў бальніцы на сённяшні дзень стабільная. Тут працуе больш за тры тысячы чалавек... Вакансіі?.. Вакансіі ёсць заўжды і паўсюдна. На сённяшні дзень бальніца недаўкамплектавана дактарамі-гінеколагамі (не хапае 4 чалавек), патрабуецца па тры ўрачы-рэаніматолагі ў дарослае і дзіцячае аддзяленні, два дактары агульнай практыкі, адкрыты вакансіі для ўрачоў-педыятраў... Ну і самая балючая праблема — гэта недахоп супрацоўнікаў так званага малодшага медыцынскага персаналу — нянечак і санітарак. Заробак у гэтай катэгорыі супрацоўнікаў 2,5 мільёна рублёў у месяц... Але ж можна атрымліваць і 5, калі працаваць на дзве стаўкі. Толькі вось ніхто гэтыя дзве стаўкі не бярэ* (а ці магчыма фізічна пацягнуць такую нагрузку? — **Аўт.**). *Што тычыцца медыцынскіх сясцёр, то іх заробкі таксама розныя: апераныйныя і рэанімацыйныя медсёстры атрымліваюць 5—6 мільёнаў, тыя, хто працуе ў аддзяленнях, — 2,5—3 мільёны. Але ж вы зразумейце, што пры жаданні можна сумяшчаць стаўку, ды і, атрымаўшы катэгорыю, чалавек атрымлівае больш. Што тычыцца дактароў, то заробкі ў людзей таксама розныя: ад 6—7 мільёнаў і вышэй... Тут няма ніякай фінансавай катастрофы і дэфіцыту кадраў. Калі б людзей не задавальняў заробак, яны шукалі б іншую працу. А хто хоча зарабляць — той працуе.*

Мяркую, гэтыя радкі прачытаюць і пракаментуюць многія шараговыя работнікі Цэнтральнай раённай бальніцы. Я толькі скажу: на прыкладзе заробкаў начальнікаў і іх падначаленых яскрава бачна несправядлівасць у аплаце працы. Чаму нават на стратных прадпрыемствах начальнікі атрымліваюць у разы больш за іншых супрацоўнікаў?

Я так разумею: сапраўды мае права на высокую зарплату той кіраўнік, які зрабіў сваё прадпрыемства заможным. Гэта значыць, што і дырэктар на ім добра атрымлівае, і рабочы. А калі дырэктар прэтэндуе на шалёныя лічбы ў зарплатнай ведамасці і пры гэтым заклікае падначаленых зацягнуць паясы, бо сітуацыя складаная, — гэта несправядліва і несумленна. Бо ўсе — ад начальніка да сантэхніка — ходзяць у адны і тыя ж крамы і цырульні, аплачваюць камунальныя плацяжы па адных і тых жа тарыфах. Усе хочуць жыць добра...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
*Салігорскі раён.*

ПЕЧАЛЬНО

## Минус миллиард

Валютная выручка Беларуси в январе—апреле 2014 года сократилась более чем на миллиард долларов по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. Такие данные обнародовал Национальный банк.

Основной причиной сокращения валютной выручки стало снижение поступлений от экспорта товаров. Так, в январе—апреле этого года валютные поступления Беларуси от экспорта товаров составили 11,2 млрд долларов и снизились на 1 млрд 59,1 млн долларов по сравнению с аналогичным периодом прошлого.

Как отмечают экономисты, снижение валютных поступлений ведет к сокращению предложения иностранной валюты на внутреннем рынке, что в свою очередь оказывает дополнительное давление на курс белорусского рубля. Ситуация тревожная, особенно если вспомнить, что в нынешнем году предприятия и население выступают чистыми покупателями иностранной валюты на внутреннем рынке — то есть покупка иностранной валюты превышает объем предложения.

ДА ЎВАГІ

## Інтэрнэт дапаможа даехаць да Вільнюса

Беларуская чыгунка з 1 чэрвеня ўвяла электронную рэгістрацыю пасажыраў на ўсе цягнікі па маршруце Мінск—Вільнюс.

Цяпер паслуга электроннай рэгістрацыі, якая дазваляе не афармляць аплачаныя праз інтэрнэт квіткі ў касе, даступная пры куплі квіткоў на цягнікі міжрэгіянальных ліній і рэгіянальных ліній бізнес-класа, якія курсіруюць у межах Беларусі. Таксама гэта датычыцца ўсіх цягнікоў на кірунку Беларусь—Расія без транзіту па тэрыторыі іншых дзяржаў і цягніка Мінск—Рыга.

З літоўскімі чыгуначнікамі прапрацаваны варыянт зручных перасадачных зносін з Мінска ў Клайпеду праз Вільнюс.

Так, пасажырам прапануецца ўзгодненая перасадка з цягніка №805 Мінск—Вільнюс на цягнік №781 Вільнюс—Клайпеда, на якім можна будзе даехаць да курортных зон Балтыйскага мора.

У перыяд павелічэння пасажырапатоку цягнік №805 Мінск—Вільнюс будзе курсіраваць падвойным саставам з шасці вагонаў.

УДАКЛАДНЕННЕ

## Зноў уцёк

Паведамленне пра тое, што ў Пскове нарэшце затрыманы беларускі ўцякач-рэкардсмен Сяргей Багдашоў, аказалася заўчасным.

Як высветлілася, Багдашоў, які ў 2009 годзе збег літаральна з будынка Жодзінскага суда, сапраўды аказаўся ў Пскове, але яму зноў удалося ўцячы ад правасуддзя, спусціўшыся з чацвёртага паверха па вяроўцы. Тым не менш у беларускіх і расійскіх праваахоўнікаў ёсць сведчанні, што ён можа заставацца ў гэтым рэгіёне. Таму нядаўна адбылася сустрэча кіраўнікоў пскоўскіх падраздзяленняў крымінальнага вышуку з беларускімі калегамі, на якой абмяркоўваліся праблемы росшуку злачынцаў, у тым ліку аб'яўленага ў міжнародны вышук Сяргея Багдашова.

Пошукі працягваюцца.

**Прыкметы:**
Сяргею Багдашову на від 30—35 гадоў, рост каля 180 см, сярэдняга целаскладу, валасы цёмныя, каротка стрыжаныя. На шыі сляды ад драпін і гематом. Валодае прыёмамі рукапашнага бою, агрэсіўны, пры затрыманні будзе аказваць супраціўленне. Добра ўваходзіць у кантакт, таварыскі, гаваркі.

ЗДАРЭННІ

## Загінулі на рэйках

У Беларусі расце колькасць няшчасных выпадкаў на чыгунцы.

За перыяд з 1 студзеня па 30 мая 2014 года на чыгуначных шляхах пацярпелі 65 (!) чалавек (гэта значна больш за аналагічны перыяд 2013 года — 47). З іх 35 чалавек загінулі (летась — 21).

Як адзначаюць у МУС, каля 40% усіх пацярпелых у выніку няшчасных выпадкаў знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
3 ЧЭРВЕНЯ 2014 г.

ВІНШУЕМ!

# Жураўлю — 60!

***У першы летні дзень свой юбілей адзначыў адзін з самых вядомых акцёраў сучаснай Беларусі — Сяргей ЖУРАВЕЛЬ.***



З 2009 года Сяргей Журавель працуе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. На сцэне тэатра ён іграе ў многіх спектаклях: «Вячэры з дурнем» Франсіса Вебера, «Ночы на Каляды» па Мікалаю Гогалю, «Местачковым кабарэ» ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна і іншых. Як кажуць крытыкі, Журавель у Купалаўскі прыйшоў не выпадкова, бо тут працуе Мікалай Пінігін. Знайсці свайго рэжысёра, вызначыць прыярытэты ў творчасці для акцёра надзвычай важна.

А пачыналася творчая дзейнасць Сяргея Жураўля з Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, куды ён прыйшоў у 1976 годзе пасля тэатральнага факультэта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. З 1985 года Журавель працуе ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры. З'яўляўся мастацкім кіраўніком тэатральнага праекта «Нікола-тэатр».

У 1999 годзе Журавель стаў лаўрэатам прэміі імя Ігната Буйніцкага. У 2011-м яму прысвоена званне народнага артыста Беларусі.

ЧУЛІ?

# Святлана Алексіевіч намінавана на прэстыжную расійскую прэмію

Днямі быў абвешчаны кароткі спіс літаратурнай прэміі «Вялікая кніга». Сярод намінантаў — беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч.

**Кароткі спіс прэміі «Вялікая кніга» сезона 2013/2014:**

Захар Прылепін — «Прыстанак»;
Аляксандр Грыгарэнка — «Ільгет»;
Уладзімір Сарокін — «Тэлурыя»;
Аляксей Макушынскі — «Параход ў Аргенціну»;
Яўген Чыжоў — «Пераклад з падрадкоўніка»;
Ксенія Букша — «Завод «Свабода»;
Уладзімір Шароў — «Вяртанне ў Егіпет»;
Святлана Алексіевіч — «Час сэканд хэнд»;
Віктар Рэмізаў — «Воля вольная».

Пераможцаў абвесцяць у канцы лістапада. Лаўрэат першай ступені атрымае 3 млн расійскіх рублёў, другой — 1,5 млн, трэцяй — 1 мільён.

МЕРКАВАННЕ

# «Чаму не дазволіць два сцягі?»

*Былы абаронца БАТЭ, а цяпер турэцкага «Генчлербірлігі», ігрок нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе* ***Арцём Радзькоў****, які ў свой час вучыў Рэнана Брэсана беларускай мове, да даў вялікае інтэрв'ю By.tribuna.com.*

— Ганаруся Беларуссю, калі чую беларускую мову, — *кажа Арцём.* — Калі чую нешта па тэлевізары, радыё па-беларуску, разумею — мы маем тое, што адрознівае нас ад іншых людзей.

Мне прыемна, калі чую, як нехта на вуліцы размаўляе па-беларуску. Хоць сам яшчэ не гатовы перайсці на родную мову ў паўсядзённым жыцці. Па-добраму зайздрошчу такім людзям, іх смеласці.

У нас жа ў краіне адносіны да беларускамоўных людзей не лепшыя. Шмат хто кажа: «Вось дзівакі!» Гэта няправільна. Трэба ганарыцца сваёй краінай. Пакрыху. Кожны дзень. Можа, тады ўсім стане добра...

**— На чыім вы баку ў пытанні дзяржаўнай сімволікі?**

— Не люблю, калі ідзе спекуляцыя з гэтай нагоды. Я не вельмі добра ведаю гісторыю, каб адназначна казаць, які сцяг больш правільны. Не хачу каб дзяржаўны сцяг стаў падставай для падзелу людзей.

Адны скажуць: «Мы за бел-чырвона-белы». А другія будуць за чырвона-зялёны. Гэта няправільна. Чаму не дазволіць два сцягі? Нельга забараняць адзін з іх.

Змяніць дзяржаўны сцяг — што ад гэтага зменіцца? Краіна стане іншай? Людзі стануць дабрэйшымі?

Згодны, трэба ведаць гісторыю. Мне, можа быць, больш за іншых. Напэўна, прыйшоў час, калі мне стала цікава, што мы за народ. Напэўна, паездзіў па краінах, паглядзеў... Напрыклад, у Турцыі дзеці ў школе два разы на дзень спяваюць дзяржаўны гімн. У нас такога няма. Пасля гэтага пачынаеш задумвацца, нешта аналізаваць.

ФЕСТЫВАЛЬ

# З удзелам Украіны...

*Украінскія артысты, нягледзячы на складаную палітычную сітуацыю ў краіне, возьмуць удзел у XXIII Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», паведаміў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.*

*«Украіна прадставіць на конкурсе сваіх удзельнікаў. Назваць імёны пакуль не магу, таму што над гэтым яшчэ ідзе праца»,* — удакладніў кіраўнік ведамства.

XXIII Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» пройдзе з 10 па 14 ліпеня. Чакаецца, што ў мерапрыемствах возьмуць удзел прадстаўнікі каля 30 краін свету. Упершыню на форум прыедуць мексіканцы.

ДАРЭЧЫ

# Стаса Міхайлава можна паслухаць за 250 тысяч



Апублікавана праграма «Славянскага базару». За восем дзён, што будзе доўжыцца фестываль, на сцэну летняга амфітэатра выйдуць не толькі канкурсанты, але і запрошаныя зоркі. Адбудуцца сольныя канцэрты Стаса Міхайлава, Барыса Маісеева, Філіпа Кіркорава, Алега Газманава і іншых расійскіх поп-зорак. Беларускія спевакі прымуць удзел у сумесных канцэртах.

Што да коштаў на квіткі, то традыцыйна самыя дарагія на адкрыццё фестывалю — яны вагаюцца ў межах 600 тысяч — 1 мільён 300 тысяч. Кошты на канцэрты расійскіх зорак можна назваць прымальнымі. Так, квіток на праграму Стаса Міхайлава «ДЖОКЕР», якую ён прадставіць 9 ліпеня, можна набыць нават за 250 тысяч, а самы дарагі абыдзецца ў 600 тысяч. Філіп Кіркораў на сваё шоу «ДРУGOY», якое запланавана на ноч з 10 на 11 ліпеня, запрашае за 300—700 тысяч. Значна таннейшыя квіткі на канцэрт Барыса Маісеева (13 ліпеня) — ад 140 да 350 тысяч і гурта «ЛЮБЭ» (14 ліпеня) — ад 180 да 400 тысяч. А вось паслухаць Газманава можна і ўвогуле за 120 тысяч, а самы дарагі квіток на яго канцэрт каштуе ўсяго толькі 280 тысяч.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПЕРСОНА

# Соблазнитель

## *25 вопросов парфюмеру, который может полюбить за запах, но и измену услышит за версту*

*Да, не спорю, профессия парфюмера для нас экзотика, парфюмерия — дорогая забава, и редкая женщина у нас может сегодня купить настоящие духи, все больше туалетными водами пользуемся. Все верно. Но вы представляете мир, где люди живут строго функционально, без игры, фантазии, причуд и маленьких дорогих безумств? Вы представляете мир без цветов и певчих птиц? Нет, такая стерильность убила бы саму жизнь. Конечно, общая гигиена человека начинается с мыла, но вот индивидуальная красота не обходится без капельки аромата. Всего лишь капельки... Но которая проникает прямо в сердце. И добавляет о человеке такую информацию, которой нет ни в одной базе данных.*



### Досье «Народной Воли»

*Влад РЕКУНОВ — белорусский парфюмер. Его наставники — Евгений Пак и София Ходош-Гройсман, номинант премии Living Legend Award («Живая легенда») от Американского общества парфюмеров, автор десятков парфюмерных бестселлеров Paris (YSL), Tresor (Lancom), Eternity (CK) и т.д. С 2006-го по 2009 год стажировался во Франции на парфюмерных фабриках IFF, MANE FILS, в Бельгии на фабрике Synaco Group.*

*В 2007 году координировал создание серийного аромата L'air Nouveau.*

*В 2009 году по предложению руководителей предприятий-производителей и предприятий-импортеров парфюмерии и косметики Влад Рекунов возглавил учрежденную ими Ассоциацию производителей парфюмерии и косметики. Участвовал в проекте по разработке добычи и производства парфюмерных компонентов на территории Беларуси. В 2012 году организовал парфюмерную мастерскую-студию. Проводит регулярные семинары с целью повышения парфюмерной культуры и образования. Составляет собственные парфюмерные композиции, создает идеи новых ароматов и новых парфюмерных услуг.*

*Автор персональных парфюмерных композиций для медиазвезд и персон.*

*1.* **— Влад, парфюмер — он в моем представлении немного шаман. Признайтесь, затуманиваете людям головы? Навеваете ароматами сон золотой?**

— А как же! Если без шаманства, то становишься чистым функционалом, который, образно говоря, занимается удалением неприятного запаха собачьего корма. Я создаю ароматы и хочу, чтобы они вызывали в людях определенные чувства, чтобы у женщины загорались глаза.

**— И открывался кошелек...**

— У мужчины!

*2.* **— Парфюмер — он же нюхач? Эти слова синонимы?**

— Иногда бывает, что синонимы. Когда парфюмер идет по улице и замечает каждую ноту в воздухе — в запахе кожаного изделия из салона авто или восточных специй из кондитерского магазина, он становится нюхачом. Эдаким следователем, Пинкертоном.

*3.* **— Нюхачами, значит, рождаются? Как музыканты — слухачами?**

— Ну, если не говорить о патологии, то признанные мастера сегодня считают, что этому делу можно научиться, если постоянно, регулярно, ежедневно «слушать» запахи, составлять в памяти базу запахов. На самом деле в нашей профессии много закулисной работы, о которой никто не подозревает. Я учился у Софии Гройсман, мне повезло, она живой матриарх искусства парфюмерии. Талантливая и трудолюбивая. Женщина бесконечной скромности и щедрости.

*4.* **— Да, помню, в прошлом году госпожа Гройсман преподнесла нашей стране новый запах — «Белая Русь». Но мир уже так насыщен великими, признанными ароматами: «Шанель», «Фаренгейт», «Опиум», «Пуазон», «Красная Москва», в конце концов! Стоит ли бороться за новые? Есть ли место на олимпе?**

— Тем не менее за два года работы нашей студии мы родили несколько ноу-хау, которых просто нет в мире. Собственно, в каждом деле можно найти свой сектор. Мы в парфюмерии нашли то, что до нас никто не делал. Во-первых, мобильный парфюмерный бар. Он благополучно кочует по праздникам, в нем 200 настоящих парфюмерных компонентов: искусственного, растительного и животного происхождения. Вы когда-нибудь слышали запах настоящего мускуса — секрета, выделяемого животным, чтобы привлечь самку? Я вам даю его сейчас «послушать», растворенный в спирте, конечно...

**— Хм, нежнейший, как у цветка...**

— Это один из самых древних афродизиаков, используемый также и человеком для привлечения противоположного пола. Он долго держится на коже. Вообще, животные компоненты делают ароматы чувственными, телесными, раскрывают нижнюю чакру, если хотите.

**— Спасибо, не хочу.**

— Я образно! Так вот, приезжая с парфюмерным баром, я, обладая опытом и интуицией, прямо на месте составляю людям ароматы. И каждый уходит домой с уникальным запахом в маленьком объеме. Далее. Только что закончилась совместная с Академией искусств выставка, где визуальные образы соседствовали с обонятельными. То есть человек переходил от картины к картине, а также от запаха в запах. Следующее — парфюмерная промопродукция. Никто на пространстве СНГ этого не делает. Мы создаем корпоративные запахи! У многих солидных предприятий есть сегодня брендбук — фирменный стиль компании: цвет, шрифт. Почему бы не иметь еще и запах? Ароматом можно обыграть любой продукт, любую услугу.

*5.* **— Так вы работаете в индустрии развлечений?**

— Да, запах — это развлечение. Деньги на ветер.

*6.* **— А, к слову, чем для вас пахнут деньги?**

— Гадостью они пахнут, конечно... Лучше бы их не было.

**— И мы умерли бы от скуки, живя в раю.**

*7.* **— Вы свой нос не хотите застраховать? Это же ваше главное орудие производства. Как ноги у балерины.**

— Не думал об этом. Я вообще фаталист: чему быть, того не миновать. Наверху всё знают, что с тобой делать. Если надо, сберегут, а если решили, что хватит, — можешь беречься, не беречься... Масло разольют на рельсы — и все. Но если действительно беречь нос, то, как говорят парфюмеры: мы дышим, но не нюхаем. Иначе в городе жить невозможно.

*8.* **— Я читала, что вы проводите мастер-классы. Наверняка приходит немало женщин. А приходят ли мужчины?**

— Конечно. Это те, кто понимает ценность запаха для женщины. Однажды руководитель предприятия заказал мне для корпоративного ужина на Новый год мобильный бар. Его подчиненные женщины, простите, просто визжали от восторга. Думаю, рейтинг руководителя с тех пор поднялся.

*9.* **— У нас в Беларуси произрастают компоненты для производства ароматов?**

— Растут. Можно производить множество компонентов, например, из древесных опилок. Сейчас они идут у нас в топку. А могли бы использоваться в парфюмерии. Но нужны, конечно, солидные капиталовложения, чтобы приобрести оборудование. Есть и травы — мята, мелисса, некоторые мхи. Хотя выбор небольшой, наш климат все-таки не подходит, чтобы выращивать эффективные для парфюмерии растения. Даже из 300 сортов роз в парфюмерии используются только два с половиной.

*10.* **— Розы — понятно. А почему люди так преданны скромной лаванде, как вы думаете?**

— Запах красивый! Прозрачный, хрустальный, чуть-чуть колющий. Настоящая лаванда растет только в Альпах и в горах Великобритании. Но так как в свое время растение попало в обязательный состав многих чистящих средств, то парфюмеры ее как раз побаиваются, работают с ней осторожно, бестселлеров с лавандой очень мало. Они боятся, что аромат станет непродаваемым, будет ассоциироваться с моющим средством.

*11.* **— Вы можете очароваться — нет, это слишком легко... Вы можете полюбить человека за запах?**

— Конечно. Когда аромат не диссонирует, не дешевит женщину...

*12.* **— А существует запах измены? Вы бы услышали его у своей женщины?**

— Почувствовать обман вполне реально. На самом деле запах имеет для нас большее значение, чем мы думаем. Не зря говорят: «Дело пахнет керосином». Или: «Дело дурно пахнет». Интриганы действительно дурно пахнут, я сразу чувствую раздражение. Бывало, что и в деловой, и в личной жизни из-за плохого запаха я прекращал с человеком контакты.

*13.* **— А может профессиональный парфюмер определить по запаху место происхождения ароматической эссенции, как знаток вина определяет по вкусу район произрастания винограда?**

— Внутри композиции сотня, а может быть, и тысяча компонентов. Как правило, композицию оценивают по богатству или дешевизне. Как ткань на ощупь. Дешевый запах плоский, он не искрится.

*14.* **— Есть ли национальный запах? Или это от лукавого?**

— Например, японцы первые принесли на рынок запах морского бриза. Но сейчас его интерпретации активно пошли по миру, сегодня все друг у друга подсматривают. Скорее всего есть связь запаха и времени.

*15.* **— Как, например, у советских духов «Красная Москва»?**

— Именно. А вы знаете историю их происхождения? Создал их на московской фабрике «Брокар» еще до революции француз, назывались они «Букет императрицы» и посвящались 300-летию дома Романовых. Когда большевики фабрику «Брокар» национализировали, то назвали духи «Красная Москва». К слову, если бы не революция 1917 года, то у России вообще были все шансы стать в ряд европейских лидеров парфюмерии: на Всемирной выставке в Париже именно русские духи «Персидская сирень» завоевали Гран-при. Они победили всех, в том числе «Джеки» (Jicky) от Guerlain (Герлен). Но «Джеки» выпускаются до сих пор. А «Персидскую сирень», к сожалению, все забыли. Рецептура утеряна.

*16.* **— А лично вам что больше нравится: «Красная Москва» или «Шанель №5»?**

— «Москва» нравится больше! Я вообще любитель терпких, густых, романтичных запахов.

*17.* **— А сальце с чесноком и стопка водки? Эти компоненты не оскорбляют ваш нюх?**

— Конечно не оскорбляют! Особенно в приятной компании.

*18.* **— Какой запах мог бы сейчас произвести революцию?**

— Ну, если бы я это знал, то стоял бы на пороге огромного личного экономического успеха.

*19.* **— Возможно, нужен не столько уникальный запах, сколько хороший бизнес-партнер? Вложить, раскрутить и так далее.**

— Да, бизнес-составляющая сейчас очень важна. Но очень важен и качественный запах, дорогая основа. Все-таки людей не обманешь, их интуиция все равно скажет им больше, чем все мировые промомероприятия.

*20.* **— А вот аромат «Белая Русь» был достаточно хорошо прорекламирован, и запах неординарный, и имя создателя — парфюмера Софии Гройсман знаменито, но в торговые ряды первые белорусские духи пока не попали. Почему?**

— Мы в ожидании инвестора. Запах «Белая Русь» талантливый, очень глубокий. От него остается сладость на губах — такой вот маленький секрет сделала для нас София. Парфюмерный бизнес в мире — один из самых выгодных после всех нелегальных, кроме шуток. Но нам он пока незнакомый, легковесность продукции, видимо, отпугивает. Стройка бизнес-центра более понятна на сегодняшний день деловым людям.

*21.* **— Вы можете сформулировать, для чего все-таки человеку нужен дополнительный аромат?**

— Чтобы обратить на себя внимание! Да, безусловно. Изначально запахи использовались как ритуальные элементы для окуривания помещений. Еще в шумерских табличках есть упоминания о запахах. А также о приправах к еде. Вообще, парфюмерия всегда шла рука об руку со специями. Матросы Колумба, спускаясь с кораблей на американский континент, кричали: «Во имя Христа и специй!» (Они же искали Индию, страну специй.) Горсточка приправ стоила тогда больших денег. Какао, ваниль, корица... Если человек привозил с Востока корабль специй, он становился, как бы мы сейчас сказали, олигархом. А знаете, как возникла индустрия запахов? Ее прародители — ремесленники из гильдии перчаточников. Почему? Дворянство, вышагивая по улицам своих городов, закрывало носы перчатками от уличных запахов сточных канав и нечистот. Чтобы перчатки были приятными, их стали душить парфюмерными компонентами, и постепенно отдали лицензию на производство ароматов перчаточникам.

*22.* **— Роман Зюскинда «Парфюмер» вы прочитали до того, как занялись парфюмерией?**

— Я работаю с парфюмерией с 2000 года и книжку прочитал немного позже. Вообще в мировом искусстве запаху уделено немалое внимание. Можно вспомнить столько цитат...

**— Например: «...люди могут закрыть глаза и не видеть величия, ужаса, красоты и заткнуть уши и не слышать людей или слов. Но они не могут не поддаться аромату. Ибо аромат — это брат дыхания. Аромат проникает в самую глубину, прямо в сердце... Кто владеет запахом, тот владеет сердцами людей».**

*23.* **— С чего начинается создание запаха, создание будущих духов?**

— Первое — это взгляд. Надо посмотреть человеку в глаза, почувствовать, что ждет заказчик от запаха.

*24.* **— Существуют ли какие-то критерии, которые женщина должна обязательно учитывать, выбирая аромат для себя?**

— Их много. Во-первых, я не призываю относиться к запаху фанатично. Аромат надо выбирать так же, как одежду: под определенную жизненную ситуацию, под определенный сезон, а также географическую точку. Еще запах не должен убивать окружающих. Есть такая шутка: если мужчина в лифте сделал комплимент вашему аромату, то скорее всего он режет ему глаза. То есть за вами не должен тянуться долгий шлейф. Но вот хвостик запаха должен быть обязательно.

*25.* **— Какой аромат вы создали бы для Александра Лукашенко?**

— Он был бы жесткий, конечно. Жесткий и дорогой.

**— А вот для такого человека, поэта и политика, как Владимир Некляев?**

— Уж простите, я его плохо знаю. Нет, помню, конечно, что он участвовал в выборах, но... Хм, фамилия у него очень мягкая. И запах был бы, наверное, чувственный.

**Елена МОЛОЧКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Георгій КАНДРАЦЬЕЎ: «Я балею за бразільцаў з 1970 года...»

*З 12 чэрвеня па 13 ліпеня ў Бразіліі пройдзе чэмпіянат свету па футболе. Галоўны трэнер футбольнай зборнай Беларусі Георгій КАНДРАЦЬЕЎ распавядае «Народнай Волі», чаго ён чакае ад сусветнага форуму, каму аддае перавагу і ці стане першынство для многіх каманд адкрыццём.*

— Чэмпіянат абяцае быць вельмі цікавым, бо пройдзе на радзіме футбола — у Бразіліі, — кажа наш суразмоўца. — Ужо толькі гэты факт будзе прымушаць каманды паказваць прыгожы атакуючы футбол.

**— Спецыфічныя кліматычныя ўмовы Паўднёвай Амерыкі могуць адбіцца на гульнях?**

— Наўрад ці, спякоты там зараз няма.

**— На каго вы робіце стаўку?**

— Буду сачыць за ўсімі камандамі, але балею за зборную Бразіліі. Я яе фанат з 1970 года.

**— Ці прагрэсіруе сусветны футбол у апошні час?**

— Ёсць цікавыя чэмпіянаты, здараюцца пасрэдныя. Напрыклад, апошняе сусветнае першынство ў ПАР не стала для мяне адкрыццём. Нічога новага. Будзем спадзявацца, што ў Бразіліі праўве.

**— І заззяюць новыя зоркі, і раскрыюцца сярэднія каманды…**

— Усё магчыма, і я ўпэўнены, што мы ўбачым новыя імёны, хоць першую скрыпку, безумоўна, будуць іграць мэтры сусветнага футбола. Але ў такім скарацечным турніры кожны можа выйграць у кожнага. Многае будзе залежаць ад настрою каманд, розных суб'ектыўных фактараў... Калі б мы зараней ведалі, што моцныя каманды абавязкова выйграюць у слабых, — гэта было б вельмі не цікава.

**— Кажуць, што зборнай Расіі пашанцавала з групай на гэтым турніры?**

— Таксама так лічу, бо зборныя Бельгіі, Алжыра і Паўднёвай Карэі — далёка не гранды. Але, паўтаруся, вынікі матчаў могуць быць самымі непрадказальнымі. І расіянам трэба добра папацець, каб выйсці ў плэй-оф. Тут вялікае значэнне будзе мець не толькі «фізіка», але і псіхалогія.

**— На ваш погляд, ці могуць іспанцы адстаяць тытул чэмпіёнаў свету?**

— Пры ўсёй павазе да каманды Іспаніі, я ў гэта не веру. Не можа гегемонія адной зборнай працягвацца вечна, хоць свой клас іспанцы, безумоўна, пакажуць.

**— Можа быць, вы таксама збіраецеся ў Бразілію?**

— Не, буду дома глядзець футбол па тэлевізары.

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# У беларускім футболе фінансы спяваюць рамансы

*Футбалісты наваполацкага «Нафтана» не задаволеныя, што ўжо пяць месяцаў атрымоўваюць толькі па 6 мільёнаў рублёў у* ***месяц.***



Айчынны футбол аказаўся ў фінансавай яме. Перад стартам чэмпіянату ў некаторых клубаў не хапала грошай, нават каб зрабіць унёсак на ўдзел у першынстве, а зараз футбалісты і трэнеры працягваюць стагнаць: не плацяць...

Футбалісты стараюцца пратэставаць. Напрыклад, матч паміж барысаўскім БАТЭ і брэсцкім «Дынама» спецыяльна затрымалі дынамаўскія іграві, каб звярнуць увагу на свае праблемы.

Паўабаронца наваполацкага «Нафтана» **Валерый Жукоўскі** днямі выказаўся ў прэсе: *«Па грашах ужо надакучыла маўчаць. Не атрымліваем заробак пяты месяц. Нас частуюць абяцанкамі — і невядома, што будзе далей».*

Карэспандэнт «Народнай Волі» вырашыў высветліць, ці ўсё так сумна, як апісваюць іграві.

— Праблема, натуральна, існуе, — распавядае галоўны трэнер «Нафтана» **Валерый СТРЫПЕЙКІС**. — Ёсць запазычанасці па заробках за пяць месяцаў, але хлопцы — малайцы, яны разумеюць, што гуляць усё роўна трэба. Гэта нават не абмяркоўваецца.

**— І за што жывуць спартсмены, як кормяць сем'і?**

— Базавы заробак (здаецца, 5 мільёнаў 700 тысяч) яны атрымліваюць. Але няма надбавак, прэміяльных... Вось пра што размова. Але ж усе ў такім становішчы — і іграві, і трэнеры.

**— Калі кіраўніцтва клуба абяцае выплаціць запазычанасці?**

— Кажуць, што ў чэрвені нейкую частку дадуць.

Дарэчы, такое гаротнае фінансавае становішча практычна ва ўсіх клубах.

*«Усе ўжо стаміліся,* — заявіў варатар жодзінскага «Тарпеда-БелАЗ» **Васіль ХАМУТОЎСКІ**. — *З пачатку года няма заробку, а бонусы і прэміі не выплачаны наогул з мінулага года. Нашы спонсары павінны думаць аб тым, як падтрымаць каманду. Ва ўсіх жа сем'і, дзеці...»*

Дырэктар жодзінскага клуба **Міхаіл ХЛУС** распавядае «Народнай Волі», што *«футбалісты галоднымі не ходзяць, а перш чым патрабаваць высокія заробкі, трэба самім паказваць высокі клас».*

— Так, ёсць запазычанасці, але не магу сказаць якія — гэта камерцыйная тайна, — кажа Міхаіл Яўгенавіч. — Але калі спартсмен — прафесіянал, то ён будзе прафесійна адносіцца да справы ў любой сітуацыі. Бо тут праблема не толькі клубаў, а ўсёй нашай краіны. Эканамічная сітуацыя ў Беларусі не самая добрая. Але трэба пачакаць, перацярпець... Ва ўсіх ёсць кантракты, умовы па іх абавязкова выконваюцца. Да таго ж нейкія грошы людзі кожны месяц і так маюць.

**— Наваполацкія футбалісты атрымліваюць амаль па 6 мільёнаў, і яны не задаволены…**

— Вось я не разумею — чым народ не задаволены?! Што ў іх сярэдні па краіне заробак? Магчыма, у нашых футбалістаў завышаныя патрабаванні. Яны хочуць атрымліваць столькі, колькі футбалісты ў іншых краінах, — і гэта нармальнае жаданне. Але на пэўных этапах жыцця трэба быць больш сціплым у апетытах. Дарэчы, нашы іграві, якія стогнуць, што ім няма чым карміць сем'і, атрымліваюць свой мінімум. І гэты мінімум разы ў два большы, чым у «Нафтане».

**— Да вас іграві з ультыматумамі не прыходзяць?**

— Па-першае, каб прыходзіць з ультыматумамі, трэба паказваць нейкі вынік. Па-другое, калі футбалісты будуць байкаціраваць матчы, то яны не будуць патрэбны не толькі ў Беларусі, але і наогул дзе-небудзь. Так што кожны працуе на сябе. Паказвай высокі клас — і пойдзеш гуляць за клуб, дзе будзеш рэгулярна атрымліваць вялікі заробак.

**— Якія асноўныя крыніцы прыбытку клуба?**

— Рэклама і бязвыплатная замежная дапамога партнёраў нашага заснавальніка — БелАЗа. Грошы прыходзяць нерэгулярна. Але праблемы ва ўсіх. Толькі мінскае «Дынама», барысаўскі БАТЭ і, можа быць, салігорскі «Шахцёр» пазбаўлены такога болю. Думаю, часовыя цяжкасці пройдуць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

# Календарь чемпионата мира по футболу-2014

*В финальном раунде турнира в Бразилии сыграют 32 сильнейшие команды со всего мира.*



## Составы групп

**Группа «А»**
Бразилия, Хорватия, Мексика, Камерун.
**Группа «В»**
Испания, Голландия, Чили, Австралия.
**Группа «С»**
Колумбия, Греция, Кот-д'Ивуар, Япония.
**Группа «D»**
Уругвай, Коста-Рика, Англия, Италия.
**Группа «Е»**
Швейцария, Эквадор, Франция, Гондурас.
**Группа «F»**
Аргентина, Босния и Герцеговина, Иран, Нигерия.
**Группа «G»**
Германия, Португалия, Гана, США.
**Группа «Н»**
Бельгия, Алжир, Россия, Южная Корея.

## Расписание турнира (время начала матчей — белорусское)

**13 июня**
Мексика—Камерун (19.00)
Испания—Голландия (22.00)
Бразилия—Хорватия (23.00)
**14 июня**
Колумбия—Греция (19.00)
Уругвай—Коста-Рика (22.00)
Чили—Австралия (01.00)
**15 июня**
Швейцария—Эквадор (19.00)
Франция—Гондурас (22.00)
Англия—Италия (01.00)
Кот-д'Ивуар—Япония (04.00)
**16 июня**
Германия—Португалия (19.00)
Иран—Нигерия (22.00)
Аргентина—Босния и Герцеговина (01.00)
**17 июня**
Бельгия—Алжир (19.00)
Бразилия—Мексика (22.00)
Гана—США (01.00)
**18 июня**
Австралия—Голландия (19.00)
Испания—Чили (22.00)
Россия—Южная Корея (01.00)
**19 июня**
Колумбия—Кот-д'Ивуар (19.00)
Уругвай—Англия (22.00)
Камерун—Хорватия (01.00)
**20 июня**
Италия—Коста-Рика (19.00)
Швейцария—Франция (22.00)
Япония—Греция (01.00)
**21 июня**
Аргентина—Иран (19.00)
Германия—Гана (22.00)
Гондурас—Эквадор (01.00)
**22 июня**
Бельгия—Россия (19.00)
Южная Корея—Алжир (22.00)
Нигерия—Босния и Герцеговина (01.00)
**23 июня**
Испания—Австралия (19.00)
Голландия—Чили (19.00)
США—Португалия (01.00)
**24 июня**
Италия—Уругвай (19.00)
Коста-Рика—Англия (19.00)
Камерун—Бразилия (23.00)
Хорватия—Мексика (23.00)
**25 июня**
Нигерия—Аргентина (19.00)
Босния и Герцеговина—Иран (19.00)
Греция—Кот-д'Ивуар (23.00)
Япония—Колумбия (23.00)
**26 июня**
США—Германия (19.00)
Португалия—Гана (19.00)
Эквадор—Франция (23.00)
Гондурас—Швейцария (23.00)
**27 июня**
Южная Корея—Бельгия (23.00)
Алжир—Россия (23.00).

Матчи 1/8 финала пройдут с 28 июня по 2 июля. Игры 1/4 финала — 4, 5 и 6 июля. Полуфиналы — 9 и 10 июля.

Матч за третье место и финал чемпионата состоятся 13 июля.

МАЗАІКА

## Палітыка заказвае музыку ў мастацкай гімнастыцы

*Па просьбе арганізатараў чэмпіянату Еўропы па мастацкай гімнастыцы ў Баку беларуская зборная адмовілася ад музыкі армянскага кампазітара Арама Хачатурана.*

Як паведаміла журналістам галоўны трэнер беларускай каманды Ірына Ляпарская, паўгода зборная выступала пад «Танец з шаблямі» Хачатурана, а цяпер у тэрміновым парадку трэніруе іншае практыкаванне пад іншую музыку. Менавіта гэтым, паводле слоў Ляпарскай, абумоўлены нізкія месцы на этапе Кубка свету ў Мінску пры выкананні практыкавання з мячамі і стужкамі. Беларускія групавічкі 31 мая занялі шостае месца ў шматбор'і, а на наступны дзень сталі сёмымі ў практыкаванні з мячамі і стужкамі.

30-ы чэмпіянат Еўропы па мастацкай гімнастыцы пройдзе ў Баку 13—15 чэрвеня.

Варожасць паміж Азербайджанам і Арменіяй доўжыцца ўжо чвэрць стагоддзя, паведамляе БелаПАН.

## Беларусь замахнецца на яшчэ адзін хакейны чэмпіянат свету?

*Беларусь можа рэальна прэтэндаваць на арганізацыю яшчэ аднаго чэмпіянату свету па хакеі.*

Аб гэтым заявіў старшыня хакейнай федэрацыі **Яўген Ворсін.**

У той жа час, паводле яго слоў, гэта магчыма не раней за 2020 год: чэмпіянаты 2015—2018 гадоў ужо набылі гаспадароў, а на першынство 2019 года прэтэндуе вельмі сур'ёзны канкурэнт — Славакія. *«У нас ёсць час падумаць і ўзважыць усе шанцы»,* — адзначыў Ворсін.

Між тым, знаходзячыся на чэмпіянаце свету ў Мінску, прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) **Рэнэ Фазель** заявіў, што правядзенне сусветнага першынства некалькі разоў у адным горадзе з'яўляецца хутчэй выключэннем. IIHF вітае арганізацыю турніру такога ўзроўню ў розных гарадах і краінах, як гэта было ў 2012 і 2013 гадах у Фінляндыі і Швецыі і будзе ў 2017 годзе ў Германіі і Францыі.

# БАТЭ набірае хаду

*У чэмпіянаце Беларусі па футболе мінскае «Дынама» прайграла жодзінскаму «Тарпеда-БелАЗу», што дазволіла барысаўскай камандзе адарвацца ад канкурэнтаў.*

У мінулыя выхадныя адбыліся матчы 10-га тура нацыянальнага футбольнага першынства ў вышэйшай лізе. Вось іх вынікі:

«Нафтан» (Наваполацк) — «Слуцк» — 1:0, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Мінск) — 1:0, «Мінск» — «Гомель» — 1:2, «Днепр» (Магілёў) — БАТЭ (Барысаў) — 0:1, «Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Брэст) — 1:1, «Шахцёр» (Салігорск) — «Белшына» (Бабруйск) — 1:2.

**Становішча каманд пасля 10-га тура**

| Каманда | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 10 | 8 | 1 | 1 | 24—6 | 25 |
| 2. Дынама (Мн) | 10 | 6 | 2 | 2 | 14—4 | 20 |
| 3. Нафтан | 10 | 5 | 4 | 1 | 11—6 | 19 |
| 4. Шахцёр | 10 | 4 | 3 | 3 | 10—8 | 15 |
| 5. Тарпеда-БелАЗ | 10 | 4 | 3 | 3 | 13—12 | 15 |
| 6. Гомель | 10 | 4 | 2 | 4 | 8—11 | 14 |
| 7. Нёман | 10 | 3 | 3 | 4 | 12—12 | 12 |
| 8. Мінск | 10 | 3 | 1 | 6 | 7—12 | 10 |
| 9. Днепр | 10 | 1 | 6 | 3 | 7—8 | 9 |
| 10. Белшына | 10 | 2 | 3 | 5 | 19—21 | 9 |
| 11. Слуцк | 10 | 3 | 0 | 7 | 5—15 | 9 |
| 12. Дынама (Бр) | 10 | 2 | 2 | 6 | 6—21 | 8 |

# Новы кантракт Глеба

*Беларускі футбаліст турэцкага «Каньяспора» Аляксандр Глеб падпісаў новы гадавы кантракт з клубам.*

Віцэ-прэзідэнт клуба Селчук Акса адзначыў, што ў клубе рады таму, што ўдалося дасягнуць пагаднення з беларусам.

*«Глеб сапраўдны прафесіянал. Ён зрабіў неацэнны ўклад у поспехі клуба. Рады, што перамовы з ім прайшлі хутка і паспяхова. Абодва бакі былі зацікаўлены ў гэтым кантракце»,* — сказаў Акса.

У мінулым сезоне Глеб правёў за «Каньяспор» 16 матчаў, забіў 2 мячы.

ШАШКІ

## Замежныя наведвальнікі

Праз сайты старадаўняй гульні існуючая ў «Народнай волі» рубрыка «Шашкі» шырока вядома. Замежныя майстры кампазіцыі, жадаючы наведаць яе, даслалі свае новыя канструкцыі:

1—2 (Аляксандр Палявы (Ізраіль) у сааўтарстве з Мікалаем Грушэўскім (Беларусь). **Белыя**: a7, b4, d2, g1, g5, g7 (6). **Чорныя**: a5, b2, g3, h8 (4). Выйгрыш. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

**Белыя**: b2, e5, g7, дамка d6 (4). **Чорныя**: b4, b6, c5, f2, f6, h2 (6). Дамачная міні-праблема: gf8 (d4A) a3, a:g1 (f6) b4 (g5B) d2 (h4) b4 (g3) e1 (c5, d4) g5 (c3) c1x. ФМ. B(e5) c3 (f4) d2 (g3) e1 (c5) h4 (d4) g5 (c3) c1x. ФМ. A(e7) a7 (d4) g1 (a3) c3x. ФМ.




3 (Юрый Голікаў, Расія). **Белыя**: d6, f4, f6, дамка f8 (4). **Чорныя**: b2, b6, h6, h8 (4). Складзена на тэму «паддаўкі»: 1. dc7 b:d8 2. fa3 ba1A 3. ac1 a:g7 4. fg5 h:f4 5. c:f8 hg7 6. f:h6 de7 7. he3 ed6B 8. ec5 d:c5x. B7...ef6 8. eg5 f:h4x. A2...bc1 3. af8 c:e7 4. f:a3 de7 5. a:f8 hg7 6. fd6 hg5 7. df4 g:e3x.

4 (Генадзь Андрэеў, Латвія). **Белыя**: 19, 20, 22, 23, 25, 28, 29, 32, 43, 45, 46, 48 (12). **Чорныя:** 9, 12, 15, 21, 31, 34, 37, 39, 40, 41, 42 (11). 38, 22-18, 43, 8, 3, 30, 34, 34x.

5 (Іван Івацка, Украіна). **Белыя**: 8,12,26,27,31,43,49(7). **Чорныя**:10,16,19,24,28,34,39,40(8). 3,44,38,17,13,3,19x.

6 (Антон Мехаў, Сахалін). **Белыя**: 11, 17, 23, 24, 27, 28, 30, 31, 33 (9). **Чорныя**: 02, 08, 12, 16, 35, 39, 43, 44 (8). 21, 7, 17, 2 (24A) 16, 32x. A(21) 16, 19x.

7 ( Валерый Кручкоў, Украіна). **Белыя**: 24, 28, 31, 34, 40, 46, 48 (7). **Чорныя**: 7, 13, 14, 17, 26, 38, 45 (7). 42, 22, 2, 41, 2:43:5+.

## Баталіі юных

Яны ладзіліся ў рамках першынства сталіцы. Чэмпіёнамі сталі: па шашках-64 — Вікторыя Нікалаева ў дзяўчынак узростам да 10 гадоў і Міраслаў Кузняцоў у хлопчыкаў, Валерыя Гнедзька і Андрэй Малчан у групе да 13 гадоў, Міхаіл Семенюк і Аляксандра Спірына ў катэгорыі юніёраў і кадэтаў, па 100 клетках — Вікторыя і Міраслаў у намінацыі «Надзеі», Яна Лазавік і Іван Трубнікаў сярод равеснікаў да 13 гадоў, Уладзіслаў Валюк і Настасся Барышава ў турніры юніёраў і кадэтаў.

А ў Літве прайшоў матч паміж камандамі Вільнюса і Мінска ў чатырох турнірах. Верх у ім узялі мінчане А.Куніца, Д.Федаровіч, А.Чэпа, М.Семенюк, Д.Немец, М.Міронава, А.Малчан і М. Часнакова — 3:1.

## Праверце рашэнні

«**Для нашых чытачоў**»: (В.Шульга) — h8, f6, g3 (f4A) ed8, a3, e7, d2 (g3) e3 (h2, g1) ef2x. A(f2) g3, ed8, a3, e7, d2/e1x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, 3286609, nvonlineinfo@gmail.com www.nv-online.info

9 772071 964000 14042

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.06.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №2332.